© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXI. № 175 Нью Ёрк November — Лістапад 1971 New York Vol. XXI. № 175

# АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ



Пасьмертнае фота Архіяпіскапа Сяргея, забальсамаванага на троне ў грэцкай царкве ў Адэляйдзе ў дзень пахаронаў 13 кастрычніка 1971

Дзелімся сумнаю весткаю: у сыботу раніцаі 2 кастрычніка сёлета ў Адэляйдзе (Аўстралія) адыйшоў на вечны супачынак на 82-ім годзе жыцьця Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Высокапраасьвячэнейшы Архіяпіскап Сяргей (Ахоценка).

Нарадзіўся сьв. пам. Высокапрасьвяшчэнейшы Архіяпіскап Сяргей 12 сакавіка 1890 году ў сялянскай сям'і ў сяле Малыя Гарошкі Жытомірскага павету. Па сканчэньні 14-ёх год жыцьця быў аддадзены бацькамі ў Богаяўленскі манастыр ў Жытоміры. 28 чырвеня 1919 году быў пастрыжаны ў манахі й выконваў абавязкі эканома Архірэйскага Дому ў Жытоміры. Адначасна наведваў і пастырскія курсы ў Жытоміры.

У 1925 годзе быў рукапалажаны ў ераманахі Архіяпіскапам Васілём Багдашэвічам. У 1932 годзе ўзьведзены ў сан архімандрыта. Душпастырскі абавязак выконваў у парахвіях у Каростэні, Народзічах, Эмільчыцах, Кулешы. На арганізацыйнай пастырскай працы быў нядоўга. У 1937 годзе быў арыштаваны саветамі й высланы на катаржную працу ў Бардзянск на рыбных промыслах.

Вызваліўшыся ў часе Другое сьветавае вайны з прымусовае лягернае працы, быў назначаны настаяцелем сабору ў Мэлітопалі.

Япіскапскае сьвячэньне прыняў 1 жніўня 1943 году ад Архіяпіскапа Міхаіла (Харошы), Архіяпіскапа Генадзія (Шыпрыкевіча) і Япіскапа Уладзімера (Мальца) ў грэцкім катадральным Саборы ў Кіраваградзе.

Архіяпіскап Варшаўскі і Мітрапаліт Сьв. Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Генэрал Губэрнатарстве 10 траўня 1944 году за № 705 выдаў Уладыку Сяргею пасьведчаньне наступнага зьместу: „Гэтым сьцьвярджаю, што Сяргей, Япіскап Мілітопальскі, із складу Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, атрымаў кананічную хіратонію першага жніўня 1943 году ў месяце Элізаветградзе (Кіраваградзе) й прабывае зы мною ды із Сьвяцейшымі Патрыярхамі Праваслаўнымі ў кананічным яднаньні, належыць да Япіскапаў Сьв. Усяленскай Праваслаўнай Царквы" (круглая пячатка з тэкстам: „Божай Міласьці Мітрапаліт Варшаўскі" і подпіс „Дыаністі Мітрапаліт Варшаўскі").

Перад адступленьнем нямецкае арміі на захад Уладыка Сяргей разам з іншымі ўкраінскімі япіскапамі выэміграваў у Нямеччыну й часова асяліўся ў месцы Канстанцы. У міжчасе былыя япіскапы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы пакінулі беларускіх вернікаў і перайшлі да Расейскае Зарубежнае Царквы. Прадстаўнікі беларускіх праваслаўных вернікаў зьвярнуліся тады да Сабору Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы з просьбаю адпусьціць Уладыку Сяргея для БАПЦарквы. Украінскія япіскапы просьбу задаволілі. 23 траўня — 5 чырвеня 1948 году быў ужо скліканы ў Канстанцы Сабор беларускіх праваслаўных вернікаў, які, абаснуўваючыся на ідэі Незалежнае Навагрудзкае Мітраполіі, пастанавіў аднавіць Аўтакефальную Беларускую Праваслаўную Царкву на чале зь ейным Першагерархам Япіскапам Сяргеем.

23 красавіка 1949 году Япіскап Сяргей пастрыг у манахі, а 19 сьнежня адбылася хіратонія архімандрыта Васіля (Тамашчыка). Ад гэтага часу аднаўленьне БАПЦарквы, дзякуючы Япіскапу Сяргею, сталася дакананым фактам. Адбылася нарада Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў, на якой пастаноўлена, што адміністратарам БАПЦ на ЗША, Канаду й Эўропу назначаецца Япіскап Васіль, а галава Царквы Архіяпіскап Сяргей пераедзе ў Аўстралію, каб узяць пад сваю апеку тамашніх Беларусаў. У Аўстраліі Уладыка Сяргей апякаваўся ня толькі Беларусамі, але й духова абслугоўваў і некалькі грэцкіх парахвіяў.

Паховіны сьв. пам. Архіяпіскапа Сяргея адбыліся 13 кастрычніка ў Адэляйдзе зь вялікай урачыстасьцяй. Кіраваў паховінамі грэцкі Архіяпіскап Сьпірыдон, галава Грэцкае Аўтакефальнае Царквы ў асыстэнцыі Япіскапа БАПЦарквы Мікалая, Япіскапа Хрызастомаса грэцкае царквы із Сыднэю ды пры ўдзеле 4-ох грэцкіх сьвятароў, пратаярэя БАПЦ Аляксандра й а. Пятковіча із Сэрбскае вольнае Царквы, пратаярэя Нікадыма з дыяканам з Украінскае Аўтакефальнае Царквы. Заўпакойная Літургія й адпяваньне адбывалася ў Грэцкай царкве, пад пабудову якое закладаў вуглавы камень і пасьвячаў Уладыка Сяргей.

Згодна зычэньня сьв. пам. Уладыкі Сяргея, зложанага ім Архіяпіскапу Сьпірыдону, каб цела ягонае было пахаванае ў сядзячай паставе, — бо гэтак хавалі праваслаўных патрыярхаў і імпэратараў, — а не ў ляжачай, была зроблена адпаведная дамавіна і паховіны адбыліся згодна жаданьня Уладыкі. Забальсамаваны, у мітры й поўным аблачэньні, на спэцыяльным троне з правою рукою, паднятай для багаслаўленьня, Уладыка выглядаў, як жывы. А спакойным тварам із зачыненымі вачыма змушаў да ўвагі й канцэнтрацыі думак пра вечнасьць (гл. вышэй зьмешчаную фатаздымку — Рэд.). Цела ў дамавіне было ўнесенае ў царкву 12 кастрычніка, увечары была адпраўленая паніхіда, а назаўтра пасьля заўпакойнай Літургіі й адпяваньня, цела ў дамавіне было абнесенае духавенствам навакол царквы, пасьля чаго падхапілі яго людзі й панесьлі аж да магільніку. Усе былі захопленыя і ўзварушаныя урачыстасьцяй. Пахаваны Уладыка на грэцкім магільніку ў Адэляйдзе.

Гэткую вялікую пашану аддало грэцкае духавенства й вернікі Архіяпіскапу Сяргею за ягоную адно часткавую апеку над некалькімі парахвіямі ў Аўстраліі. А заслуга ягоная для Беларусаў непамерна большая. Ён у трагічны гістарычны мамэнт прыйшоў да нас, каб ўратаваць БАПЦаркву.

Сьмерць сьв. пам. Уладыкі Сяргея — вялікая страта для БАПЦ. Глыбокая ягоная рэлігійнасьць, грунтоўная веда царкоўных уставаў і канонаў, нязьменнасьць у выкананьні трэбаў, абарона праваслаўя, шляхотнасьць характару сьветлыя аб ягонай годнасьці. Як Архіяпіскап, ён ня шукаў собскай славы й гонару, а імкнуўся верна служыць Беларускаму Народу, каб БАПЦарква ня страціла свайго пераемства. Малемася, каб Госпад Бог паслаў больш для нашае Сьв. БАПЦарквы гэткіх рэлігійных волатаў. Ён адыходзіць у гісторыю нашае Царквы, як вялікі змагар за духовую волю Беларускага Народу.

Няхай-жа аўстралійская зямля будзе Яму лёгкаю! Няхай Госпад Бог упакоіць Ягоную душу, дзе ўсе праведнікі спачываюць, а памяць аб Ім сярод Беларускага Народу будзе вечнаю!

Вечны супакой Табе, вялікі Адраджэнец і Незабыўны Добры Пастыр!

**Япархіяльная Управа БАПЦ**

**5 СЬНЕЖНЯ — АПОШНІ ТЭРМІН УПЛАТЫ 10 ДАЛ. ЗА ЎДЗЕЛ У ГРУПОВЫМ КАЛЯДНІМ І НАВАГОДНІМ ВІНШАВАНЬНІ І 25 ДАЛ. ЗА ПАВІНШАВАНЬНЕ ІНДЫВІДУАЛЬНАЕ**

# ПРАБЛЕМА НАЦЫЯНАЛЬНАГА Й САВЕЦКАГА ПАТРЫЯТЫЗМУ Ў БССР

Доктар гістарычных навукаў і прафэсар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту А. Жураў зьмясьціў у газэце „Советская Белоруссия" за 22 чырвеня сёлета тээрэтычны артыкул „С чего начинается родина". Асноўны сэнс гэтага артыкулу выказаны ўжо ў ягоным эпіграфе, у якасьці якога аўтар узяў два першыя радкі з паэмы Якуба Коласа „Новая зямля": „Мой родны кут, як ты мне мілы!... Забыць цябе ня маю сілы!" Самы артыкул пачынае А. Жураў гэткімі словамі: **„Паэты даўно далі адказ на пытаньне пра вытокі нашых патрыятычных пачуцьцяў.**

**Радзіма! Як шмат паняцьцяў улучае ў сябе гэтае слова, як шмат пачуцьцяў прабуджае яно... Гэта й песьня-калыханка маці... Зямля, па якой ты ставіш першыя крокі, поле, што дало табе хлеб, рака, якую ты пераплыў упяршыню — усё гэта Радзіма!"**

Любасьць да гэтае свае радзімы й становісьць, паводля аўтара артыкулу, беларускі нацыянальны патрыятызм. Але побач і раўналежна зь беларускім нацыянальным патрыятызмам у савецкіх абставінах разьвіваецца, паводля А. Журава, і савецкі патрыятызм. **„Савецкі патрыятызм — зьява выняткавая, —** цьвердзіць Жураў, **— у ім арганічна зьліліся нацыянальная гордасьць і лепшыя нацыянальныя традыцыі, пачуцьці брацтва людзей сацыялістычных нацыяў і паважаньня ўсіх народаў, працоўных людзей усяе зямлі".**

І яшчэ адну цытату трэба падаць з гэтага цікавага артыкулу: **„Сёньня у мінулыню памагаўся пад выглядам інтэрнацыяналізму насаджваць касмапалітычныя пагляды, а любасьць да роднае зямлі й роднае культуры вытлумачваць, як выяў нацыяналізму і нацыянальнае абмежанасьці. Вельмі блага, зразумела, калі любасьць да „роднага кута" засланяе вочы й змушае ідэалізаваць нат балота, лапці й сярмягі. Але блага й тое, калі чалавек прыпадабняецца да Івана, што ня памятае роду, і яму робіцца абыякавымі і родная мова, і родныя песьні, і родны край, дзе ён нарадзіўся, рос, вучыўся".**

За ня цэлы месяц — 16 ліпеня сёлета зьявіўся ў маскоўскай „Праўдзе" вялікі тэарэтычны артыкул доктара філязофічных навукаў Э. Баграмава „Разьвіцьцё й збліжэньне сацыялістычных нацыяў". Пасьля аналізу нацыянальных і агульнасавецкіх або, як ён кажа, інтэрнацыянальных працэсаў у Савецкім Саюзе, аўтар артыкулу ў „Праўдзе", падобна як і аўтар артыкулу ў „Советской Белоруссии", робіць высноўу, што **„інтэрнацыяналізацыя грамадзкага жыцьця пры сацыялізме ані не абазначае „дэнацыяналізацыі"**. Тым ня менш, ён цьвердзіць, што ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе **„ўзьнікла новая гістарычная супольнасьць людзей — савецкі народ"**. І гэты савецкі народ, паводля Баграмава, **„адначасна адзін і шматнацыянальны". „Наяўнасьць савецкае інтэрнацыянальнае супольнасьці народаў,** — кажа Баграмаў, **— на супярэчыць існаваньню й разьвіцьцю савецкіх нацыянальных супольнасьцяў".**

Гэткая вось канцэпцыя нацыянальнага й савецкага патрыятызму, як абазначае яго беларускі аўтар, або нацыянальнага й інтэрнацыянальнага, паводля тэрміналёгіі аўтара з маскоўскай „Праўды".

Выходзячы з гэткай канцэпцыі нацыянальнага й савецкага патрыятызму, што быццам, як цьвердзіць аўтар, адзін другога ня выключаюць, а ўзаемна й сугучна сябе дапаўняюць, Э. Баграмаў усё-ж ня можа прамоўчаць упрывілеяванай і выключнай ролі расейскай культуры й расейскай мовы, як важных, калі не найважнейшых нат кампанэнтаў гэнага савецкага партыятызму. Закранае ён гэтае пытаньне быццам у вадказ „ідэалягічным дывэрсантам" — „ідэалёгам буржуазіі" й „эміграцкаму ахвасьцю", што **„гальванізуюць стары жупель прымусовай асыміляцыі й „русыфікацыі"... чаўпуць пра мітычную загрозу асыміляцыі нацыянальных культураў і іхнае „заніканьне" ў савецкай культуры".**

Дацъ гэткі адказ гэным „ідэалёгам буржуазіі" й „эміграцкаму ахвосьцю" на бачынах самой „Праўды" спатрэбілася, відаць, дзеля нутраных савецкіх, а ня гэных вонкавых патрэбаў. Спатрэбілася на тое, каб упакоіць нерасейскія падсавецкія народы, моцна ўстрывожаныя й незадаволеныя русыфікатарскай сьціраванасьцяй г. зв. ленінскай нацыянальнай палітыкі апошняга часу. Э Баграмаў намагаецца пераканаць незадаволеных, што **„засваеньне перадавых традыцыяў расейскай культуры заўсёды дабратворна адбівалася на разьвіцьці прагрэсыўных нацыянальных традыцыяў"**. Але-ж у практыцы сяньня адбываецца ня толькі працэс уплываў традыцыяў расейскай культуры на культуры нацыянальныя, што было-б яшчэ паўбяды, а навет зьявай карыснай, калі-б уплыў гэты не накідаўся ў прымусовым парадку згары. Горш тое, што згары праводзіцца мэтанакіраваная падмена нацыянальных культураў нерасейскіх народаў нацыянальнай культурай расейскага народу, незаўсёды навет і прагрэсыўнай. А гэтае зьявы інакш, як культурнай русыфікацыяй, назваць ужо нельга.

Баграмаў цьвердзіць далей: **„Яўна беспадстаўная аказваецца спроба ў мэтах доваду гэнай-жа „прымусовай асыміляцыі" паклікацца на моўныя працэсы ў нашай краіне, а перадусім на рост ролі расейскае мовы"**. Паклікаўшыся на факт, што расейская мова ў моц аб'ектыўных абставінаў сталася ў Савецкім Саюзе мовай міжнацыянальнае лучнасьці, Баграмаў уважае за цалкам нармальную зьяву вылучнага і ўпрывілеяванага месца гэтае мовы і ў нутраным жыцьці нерасейскіх народаў СССР. Каб не палохаць гэтых народаў русыфікацыяй ды апраўдаць яе, Баграмаў даводзіць: **„Маючы навеце цяперашнія працэсы ў жыцьці бальшыні народаў СССР, трэба сказаць, што, як правіла, пераход на іншую мову (г. зн. расейскую — Рэд.) пры захаваньні папярэдняе нацыянальнае самасьведамасьці, культуры і псыхалёгіі сам па сабе яшчэ ня сьветчыць пра асыміляцыю, хоць і можа абазначаць рух у гэтым кірунку".**

Дык вось яно што! Падмена нацыянальных моваў расейскай мовай — гэта, маўляў, не асыміляцыя й ня русыфікацыя, але можа абазначаць рух у кірунку асыміляцыі й русыфікацыі. Ня кіем, дык палкай!

Не зважаючы на гэта, гэныя тэарэтычныя заявы абодвых аўтараў, што нацыянальны й савецкі патрыятызмы — зьявы раўназначныя, гэта адзін з пазытыўных вынікаў дэсталінізацыі. Чагосьці падобнага ў сталінскі пэрыяд сказаць было-б нельга. Інакш кажучы, гэта прызнаецца часткавая спроба аб'ектыўнага пацьверджаньня абодвымі аўтарамі тых працэсаў, што адбываюцца сяньня ў рэальным жыцьці.

Але сяньняшнае жыцьцё пайшло куды далей, чымся канстатуюць абодвы аўтары. Паводля гэтых аўтароў, нацыянальны й савецкі патрыятызм, або нацыянальнае й інтэрнацыянальнае — зьявы, як згадвалася толькі што, раўнавартасныя й раўналежныя. Тымчасам у культурных імкненьнях і сьведамасьці савецкіх народаў элемэнт нацыянальны адыгрывае большую ролю, мае пяршынство й перавагу над элемэнтам агульнасавецкім або інтэрнацыянальным. Бо што творыць аснову беларускага нацыянальнага патрыятызму? Паводля беларускага аўтара, гэтай асновай і гэны „родны кут", дзе чалавек нарадзіўся й вырас, і родная мова, і спрадвечныя народныя традыцыі, і нацыянальная мінуўшчына, і ўвесь псыхалягічны склад ягонае душы — інакш кажучы, зьявы арганічныя, што ў суме твораць нацыянальную існасьць народу.

А якія галоўныя атрыбуты савецкага патрыятызму? Вось яны, паводля беларускага аўтара: **„У нас ёсьць ідэалёгія, што нас аб'ядноўвае, у нас ёсьць партыя, што нас згуртоўвае. Нашая ідэалёгія — марксызм-ленінізм, наш палітычны правадыр і арганізатар — ленінская партыя камуністаў".** Але атрыбуты гэтыя не арганічныя, а накінутыя народу, як абавязваючыя й няўхільныя. Дастаткова каб зьмянілася таталітарна-дыктатарская сыстэма ў Савецкім Саюзе на сыстэму ўзапраўды дэмакратычную, дык ад гэнага савецкага патрыятызму не засталося-б і сьледу. Затое беларускі нацыянальны патрыятызм, хоць і выкараняваецца бязьлітасна ўсякімі спосабамі й мэтадамі ўлучна зь фізычным тэрорам на працягу цэлага паўстагодзьдзя ўжо, ён усцяж жывы й пры кажнай больш спрыяльнай нагодзе стыхійна выяўляецца навонкі.

Гэта ўсё вымоўна пацьвярджае сяньняшні працэс разьвіцьця бела-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

